Вільня Кастрычнік 1912 г. Цэна 10 к.

# КРАПІВА

На выбарах у Вільні за поступовых кандыдатоў Расейской куры́і пададзено 40% галасоў, за поступовых кандыдатоў польскай куры́і пададзено 10% галасоў.



ERGO:

у Вільні чорнай сотні Расейскай 60%

у Вільні чорнай сотні польскай 90%






А ну?!... хто каго перэцягне?

# Навіны.

Павэдле слоў „Нов. Времені“ дэпутат II Гас. Думы, вядомы Цэрэтэльлі, адбывaў катаргу за... „убіўство сваей жонкі“.

Ды якжэ! Мы добра знaлі нябошчыцу Конституцію Сергееўну! Забіў разбойнік, забіў! Ды ешчэ і зьеў паліўшы верэшчачкай...

Але відаць „Нов, Вр.“, ня ведае ешчэ, што, апрача таго, п. Цэрэтэльлі зарэзаў дванаццацера грудныхъ дзяцей, з якіх шмат каторые дайшлі ўжо чына праўдзівых стацкіх радчых і былі членамі Гасударственнай Рады; падпаліў Ісакоўскі сабор у Тыфлісе, перакінуў памятнік Пeтра Вялікаго у Пермі, устроіў землетрасеньне у Пецярбурзе і згвалтаваў мармуровую німфу у Летнім садзе, што у Яраслаўлі!

І ешчэ Эўропа пазваляе сабе дзівіцца чаму гэткіх „укаталі“ у катаргу, а цяпяр у Сібір высылаюць...

* * *

Стараверы паслалі у міністэрство ўнутрэнных спраў памятную даску, каторую яны хацелі паставіць на тым мейсцы, дзе спалілі іхніх мучэнікоў XVII века: Протопопа Авакума і дьякона Фёдара. Даску вярнулі разбітай на 13 кускоў.

Прыгожа! Цікава было б ведаць імя таго героя, каторы с чужой сьвятыні зрабіў сваю „чортаву дюжыну“. Відаць далёка пойдзе: ведае, як рабіць карьеру!

* * *

У чатырох славах „вялікі гасударственны геній Столыпін“ князь Мешчэрскій знайшоў тры словы лішніе:

— ... вялікі, гасударственны, геній...

Шчыра кажучы і без чацьвёртаго Расея абходзіцца не ўздыхаючы.

Відаць дзеля таго, што ўжо вельмі ўпадабала Коковцева. Не йначы!

* * *

Фацежскіе благачынные патрэбавалі ад духавенства цыркулярам:

— Безпрэменна явіцца у палату Архангела Міхаіла на вячэру с „чаем“.

Па скольк і фунтоў чаю павінна прынясці на вячэру кожная духоўная асоба, бацюшкі, як відаць, павінны дагадацца самі.

* * *

У Рушчуку на варце стаіць прафэсар з гвінтоўкай.

Падумаеш—дзіва! Ды вун прафэсар Грібовскій у Пецярбурзе інaчы як з вартай у аўдыторыю ня ўходзіць!

Відаць, так сама... „хімік“!

А добрае гэтае маскоўскае слова, калі яго выгаварываць з акуратнай інтонаціей.

* * *

З варшаўскаго кандыдата у Гас. Думу, Дмоўскаго, сьмяюцца, —нашто ён пахваліўся перад выборшчыкамі сваімі атлетычнымі здольнасьцямі.

Напрасна. Відаць, чэлавек разумее своё дзела.

Трэцяя Дума кончылася тым, што дэпутаты гразілі адзін аднаму кулакамі. Чацьвёртая можэ начацца с таго, што людзі стануць класць адзін днаго на „обедзьве лапаткі“.

А. А.

* * *

Індыка бачыў кум?
— Агум!
Ў дварэ, ў сяле?
— Але!
Дык дзе? скажы
— Ня ржы!
А ён-жэ як, прыгож?
— А ўжо-ж!
І кажуць, важны птак?
— А так!

# Губэрнскі аграном.

Назначэны с „пламеннай Колхіды“ губэрнскі аграном вельмі зацікавіўся тутэйшай гаспадаркай.

Тут усё надта цікава, казаў ён да свайго памочніка-земляка, каторы ехаў разам з ім у абезд губерні.

Памочнік ахвоча падтаківаў.

Гаспадар першай сустрэціўшэйся сялібы пaказаўся ім вельмі цікавым чэлавэкам.

— Вы ўжо пакасілі бульбу?— загаварыў ласкава з ім губэрнскі аграном.

— Не,—паночку,—бульбы мы ня косім,—атказаў мужык, нізка кланяючыся.

— Во, а гэта чаму? Можэ не ўрадзіла?

— Не, але бульбу у нас ня косяць, а капаюць.

Здзівіўся губернскі аграном.

— Ці і запраўды бульбу ня косяць? — спытаў ён свайго памочніка.

— Не ня косяць.

— Ці і заграніцай?

— І заграніцай...

Тут памочнік агранома задумаўся крыху, а пасьля далей казаў:

— Загран.цай бульбу атрэсаюць, бо яна там расьце на дрэвах. Затое і называюць яе там *„pomme de terre“*, а *„pomme“* па француску азначае яблако. Яблакі-ж растуць на дрэвахъ,

— Гэта я ведаю...—Перабіў яго начальнік.

Пасьля і зноў звярнуўся да мужыка:

— А як там у вас сёлета с хлебам? Добры удаўся?

— Дзякаваць Богу, на умалот ня кепскі.

— А хлеб смачны?

— Нішто сабе.

— Пакажыце-ж мне ваш хлеб.

Селянін вынес булку хлеба з добраго паўпуда. Пан аграном узяў у рукі булку і сказаў:

— Ого! фунтоў з дваццаць! Селета хлеб добра удаўся.

Селянін паказерыўся на сваю жонку.

— Скажы-ж мне, мой дружэ, ці гэта праўда, што салома тонкая?

— А тонкая.

І бытцым надта горд?
— Як чорт!
Здаецца даўны род?
— Ды вот...
Вучон? Ня крыйся мне!
— А не!
Гамоніць хоць да кога?
— Нічога!
І гаманіць ня хочэ?
— Баўбочэ!
А як, падобна бабе?
— Ды не:
— Літоўскі дваранін я,
Рымскі грабя!

*А. Г.*



## Малітва сучаснаго віленскаго мужа.

,,Вялікі мой Божэ, сцеражы мяне, каб я не ажаніўся. А калі ажанюся, то дай Ты мне, каб жонка мая ня мела дзяцей. А калі будзе мець дзяцей то, каб яна не зналася с шантэклерамі. А калі і спазнаецца, не дай Ты мне даведацца. А калі і даведаюся, то дай мне Божэ сіл укрыць гэта перэд людзьмі і обярні усё на большую славу іх; каб я даведаўшыся, не кажучы нікому худога слова, узяў шапку маю і пайшоў да свайго заняцьця, каторэе маю дзякуючы іх малітвам і пратэкцыі“..

---

## У краме віленскаго мясьніка.

*Мясьнік* (да свайго хлопца). Ну, што занёс ты прыставу, яго целячую галоўку?

*Хлопец.* Занёс.

*Мясьнік.* Дык вазьмі цяпер адсячы заднюю нагу палкоўніцы „Панамарскай“, павесь „Папоўскую“ тушу на кручок, а вучыцелевы трыбухі злажы у карзінку: сам прыйдзе і возьме, не вялікі пан.

Ага! Вось ешчэ трэба перэмяніць мазгі таму таўстому пану, што жыве на рагу Троцкай вуліцы, бо тые у яго ўжо пратухлі.



**Разгавор дыпломатоў.**

---

## ЗАГАДКІ.

Для спрытных людзей найлепшы якіе лясыборы?

*Выборы.*

Які найпэўнейшы і найпрасьцейшы спосаб ашукаць чэлавека?

*Прыкінуцца яго прыяцелем.*

Хто цярплівейшы за вярблюда?

*Беларускі мужык.*

---

— А як-жэ гэта тлумачыш сабе васпан, што тонкая салома можэ утрымаць гэткі цяжар?

Памочнік угледзіўшы, што селянін нeяк змешаўся, пасьпяшыў на помач свайму начальніку.

— Калі булкі дасьпеваюць, тады яны малые, тлумачыў.—Як зрываюць булку, то яна ня больш фунта важыць. А калі яе усадзяць у печ, тады яна павялічываецца у дзесяцера, а то і у дваццацера; — гэта яны тут называюць „падходам“ хлеба.

— Чаму-ж яна павялічываецца у печы?

— Ад гарачыні. Кожная рэч ад гарачыні павялічываецца...

— Гэта я ведаю...

У гэты момэнт нейкі рагаты, густа абросшый поўсцю чатыраног, перэсадзіў адным махам праз плот, заблеяў і затрос барадой.

— Якая харошая кароўка! — любаваўся нова назначэны губэрнскі аграном. — А шмат яна дае вам малака?

— Саўсім не дае!—атказаў мужык. — Скуль жэ малако, калі..,

— Хіба вы яе няўмееце карміць! — перабіў аграном.

— Кормім добра, але...

— Гэта не карова, а авечка! — цішком шэпарнуў памочнік, запрымеціўшы, што яго начальнік заблутаўся.

— Што чаўпеце?— адпаліў аграном, змераўшы падўладнаго вострым поглядам.— Як можэце казаць, што гэта авечка! Хіба не бачыце барады? Ці вы калі бачылі барадатую авечку?

Памочнік здзіўлены адвагай свайго начальніка, усьміхнуўся с паблажкай і сказаў навучаючым тонам:

— Усе авечкі маюць бароды, але іх голяць. Толькі тут далёка ад культурнаго цэнтру, відаць, нехватае галяроў, а можэ і грубасць абычаёў, прыродная гэтай старонцы, гэтаму прычынна.

— А рогі?

— А праўда, рогі... Гэта... то...

Памочнік збіўся с панталыку.

— Праўда, што нейкая дзіўная авечка.

— Чаму-ж не дае малака? — звярнуўся губэрнскі аграном да селяніна.

— Бо гэта казёл, паночку!

— Губэрнскіе аграномы зачырванеліся, як дзеўчаты.

## Без пратэкціі.

У Віленскую гарадзкую думу прывялі барана, катораго злавілі, як бадзяўся па вуліцы. Калі яго уводзілі у браму, сабралася гэткая грамада народу на вуліцы, што ажно, дагэтуль сонны, гарадавы схамянуўся:

— Чаго пхаецеся,—крычаў ён, — не бачылі барана!

— Так—то так,—атказывае на гэта адзін панок з грамады, — але гэта першы баран, каторы трапіў сюды без пратэкціі...

## Апошняя думка.

Пан Калтунскі (даўней Каўтун, „скі" дапісаў сабе за нашай памяці), гаспадар камяніцы у Вільні, памірае.

Каля пасьцелі паміраючаго сабралася ўся радня, бліжэйшая і далейшая, усе чэкаюць на благаслаўленьне.

У канцы хворы адзыскаўшы прытомнасць на момэнт, звертаецца да жонкі і стогне слабым голасам:

— Хвальцю, пакліч до мне стоража Міколу!

— А на цож табе его тшэба, душко?

— Дам ему пасьледню дыспозыцію! Хацеўбым, бачыш, душко, ешчэ пасьледні раз у жыцьцю паднесьці маім льёкаторам арэнду на мешканя!..

## Прабаутнулася.

*Паня* (перэтрэсаючы куфэрак служанкі). Гэта срыбная лыжачка, зладзейка ты, гэтак сама наша. Выразна стаіць на ей: „*Hotel Georges*“, а туды мой муж як-раз ходзіць што дзень на каву.

## Віленскае малако.

— Тое малако, што вы нам прыносіце, неяк дзіўна пахне. Чаму гэта?

— Няведаю панячка. Гаспадыня клікала ужо канавала, каб карову агледзіў, але канавал казаў, што карова саўсім здаровая.

— То мо трэ - было-б агледзіць тую ваду, што вы даліваеце са студні да малака.

— Э-э... панячка, хто-б там цягаў ваду са студні. Гаспадыня далівае ваду с сажаўкі, ў каторай цяпер канаплі мокнуць...

## Добрая рада.

— Што мне рабіць з маім сынам? Гэткі неўдача: што не ступне, то збрэшэ!

— Во як? То ведаеце што! Атдайце яго у навуку да Кавалюка!

## З выдавецкаго беларускаго руху.

Выйшлі з друку практычные гутаркі:

I. Як выбіраць добрую карову.
II. Як выбіраць добраго каня.
III. Як выбіраць дэпутата у Гас. Думу.

## „Наша Ніва“,

Як чулі мы „Наша Ніва“, каб на практыцы выказаць сваю тэорыю роўнаправія ўсіх націй у Беларусі, ад Новаго Году пачне выхадзіць кірыліцай для старавероў, рускімі літэрамі для праваслаўных, лацінскімі літэрамі для каталікоў, готыкай для немцоў і гэбрайскімі літэрамі для жыдоў. Ці гэта праўда не ручаемся: чутка пайшла, як кажуць, ад св. Духоўскаго брацтва і хаўрузіі...

— А... а... казлы ніколі не даюць малака?— запытаўся памочнік.

— Адзін выродак казлінаго роду, кажуць на сьвеці ёсць, катораго дояць і той, не ў нашаго брата, а у міністра торгу і промыслоў Тімашева здарыўся. Сёлета на выстаўцы паказывалі.

Аграномы спачуваюча паківалі галовамі.

Губэрнскі аграном пачаў мужыка навучаць.

— От пасадзіў-бы ты колькі шпарагавых дрэвак.

— Якіх дрэвак?

— Шпарагавыхъ. Ці-ж гэта вы ніколі ня чулі аб шпарагах? Добрую порцію шпарагоў цэняць, па сталічных рэстаранах, на вагу залата. Адно гэткае дрэўцо дасць вам больш тысячі рублёў даходу.

Мужык недаверчыва паглядаў, то на губэрнскаго агранома, то на яго памочніка.

— А пэрсікі? — выкладаў далей аграном с „пламеннай колхіды“. — Загранічные агроднікі маюць с пэрсікоў грамадные дахады. І вы, маючы гэтулькі зямлі, маглі-б садзіць пэрсікі.

— Якое гэта нешчасьце — уздыхнуў памочнік, што тутэйшы мужык гэткі гультай і цёмны. У іншай старонцы земля, пры гэткім губэрнскім аграному сталася-б проста раем, а у нас...

— Ды і у нас будзе добра!—атказаў губэрнскі аграном з верай у голасе. Ня трэба толькі апускаць рукі. Трэба працаваць над асьветай селян, шырыць паміж іх агранамічнае знаньне, паднімаць культуру зямлі...

І ізноў звярнуўся да мужыка:

— Капусту пасеялі ужо?

— Пасадзіў.

— А добры быў ураджай? Пэўне ня менш, як сёмае зярно?

Мужык маўчаў. Маўчанку гэту ўзялі за знак згоды.

* * *

За колькі дзён друкавалося у Губернскіх Весцях, што мужыкі, іх рупасць і праца вельмі падабаліся нованазначэнаму губэрнскаму аграному.

Вялікая шкода, што „Весьці“ не надрукавалі, як падабаўся губэрнскі аграном мужыкам.

*д'Ор.*

## „Беларускі Клуб“ і „Беларускі Кружок“.

— Што падобнаго маюць „Беларускі Клуб“ і „Беларускі Музыкальна-Драматычны Кружок“?
— Яны подобны адзін на аднаго, як нос на бурнос. Але разгледзім па парадку.

*„Беларускі Клуб“* хочэ, каб не было беларусоў.

*„Беларускі Кружок“* хочэ, каб былі беларусы.

*„Беларускі Клуб“* хоче, каб не гаварылі па беларуску.

*„Беларускі Кружок“* хочэ, каб ня толькі гаварылі, але чыталі, пісалі і думалі па беларуску.

---

## На выбарахъ.

— Вашэбродзіе, куды класьці шарык-то?
— Пагадзі, барада, будзе сказана!..

—:—

Кажуць, Мінскі епіскоп Іоанъ, зразумеўшы, што мінскі выбаршчык не раўня віленскаму: на выбарах падаў свой голас за прогрэсіста Мейліна. Гэта значыць, што выпоўніў сваю грамадзянскую павіннасць павэдле сумленьня, а не па цыркуляру.

---

## Пры выбарахъ ад рускаго населенія у Вільні.

I *Абыватэль* (шаручы па кішэнях)—Чорт вазьмі, згубіў свой бюлецень!

II *Абыватэль.*— А які у вас быў?

I *Абыватэль.*—Ды прогрэсістоў-жэ!

II *Абыватэль.* — Шкада: у мяне астаўся але чорнасоценны...

I *Абыватэль.*—Давайце! Мне ўсё роўна...

Вось што значыць палітычнае выхованьне абыватэлёў слаўнаго места Віленскаго!





**Новы способ навучаньня.**

---

## Споведзь.

Спаведаўся адзін стары чэлавек у манаха і то тое, то сёе казаў, а пад канец прызнаўся, што цалаваў чужую жонку, але на сваё апраўданьне дадае, што не рабіў-бы гэтак, каб яму не дарадзілі людзі, што гэта на вочы памагае.

А манах на тое:

— Ня вер васан, каб гэта праўда была, то я-б чраз мур бачыў.



## Разгаварыліся.

Раз баба захварэла і пайшла да дохтара. Ну дык ён палядзеў і кажэ:

— Нічаво, бабушка, пустякі, будет всё хорошо, только покупі себе очкі.

Баба прыйшла дамоў дый бядуе:—Мусі ужо нічога з маіх ачоў ня будзе, бо казаў дохтар — купі сабе, бабка, новые вочкі, калі кішэнь не пустуе. А, пагібель, яго ведае може ён на кпіны гэтак сказаў, гэта-ж ніхто на сьвеці ачоў не прадае!

Ажно, якраз сядзеў чэлавек у хаці, што ў маскалёх служыў, дык ён кажэ: — гэта ён табе мусі акуляры загадаў купіць.

## Здумны хлопец.

Быў у аднаго пана хлопец на пасл[у]зі, ды надта ўжо ласы: за ім нічога ні пастаў ні палажы. Раз паставіў пан слоік мёду з ранку, а ў вечэры глядзіць, ужо пусты!

— Дзе мёд?—пытае у яго.

— Вылізаўся, паночку!

— Ну, тваё шчасьце, кажэ пан, што сягоньня сьвятая нядзеля, а то-б я табе задніцу вылізаў!

А нідалёчка ад двору рэчка была. Хлопец гэта назаўтрае рана устаўшы скінуў парткі, ды й так шаруе гузно, так шаруе! Пан углєдзіў гэта праз вакно і пытае.

— А што ты, блазцэ там робіш?

— Гэта, каже ён, паночку, я мыюся, каб чыстым быць, бо пан маніўся сягоньня раніцай мне нешта рабіць.

— А пфу! каб ты прапаў! — сплюнуўся пан



## Шчыра праўда Янукова.

Аднаго разу вязьлі машыну гэту, што жаць, ды затрымаліся каля карчмы на папас. Назьбеглося народу, глядзяць на яе кругом: што гэта? без людзей будзе жаць! Ажно адзін пажылы чэлавек аглєдзіўшы яе добра, сціснуў плечыма, закруціў галавой, дый то адыйшоўся на бок і стаіць. А той аканом, што вёз яе, бачыў гэта дый пытае:

— Чаго-ж гэта ты надкпіваеш? што табе здаецца?

— От, нічога, паночку, так сабе.

— Як то так, ты нешта бачыў?

Ды як прыстаў добра да яго, дык ён кажэ:

— Ат, паночку, не хватае ей аднэй рэчы, ды не выпадае казаць.

— Чаму так не выпадае? кажы? ды прыстаў так смольна, каб сказаў.

— Вот, паночку, шануючы Бога і вас,—у яе заду німа!

— Здурнеў ты, ці што?—кажэ эканом.

— Ды не, я-ж помню, як за паншчыны баба дрэнна жала, то бывало было па чым біць, а гэтай машынні, што зробяць, калі ня будзе жаць?



## Гарадавы і яго сын.

— Каб так грошы дзе украсці,
Ды у карк каму накласці,
Ці мне гэта, тата, можна?
— Можна, толькі асцярожна.
— А ці можна мне крычаці,
Каб біць левыхъ, катаваці?
Правым грошы больш даваці?
— Крычы пакуль сіл не хвацэ.
— А ціхком і асцярожна
Сказаць „воля, прогрэссъ“ можна?
— Э! Ты, здумаў штось нячыста...
Марш ў участак анархіста!..

Крыкун.

## Сынок да бацькі фабрыканта.

*Сынок:* Тата, чаму гэта салдаты стрэлялі на ленскіх капальнях у работнікоў?

*Бацька:* Бо работнікі не хацелі працаваць.

*Сынок:* Калі за гэта, то чамуж у тату ніколі не стрэляюць?

* * *

Малы Юрка надзеўшы першы раз штаны — радый, пагладзіў сябе на бруху і кажэ:

— Ну і ўзо зацынаю быць татам.



## Добрая рада.

— Ах, як я люблю дзяцей, але чужых.

— Ну то ажаніся са Скакушанкай, то яка ўжо пастараецца каб было іхъ у цябе поўна,



## Добрые дзеці.

Пане Б. Вашы дочкі—гэта праўдзівые анёлчыкі.

— Так, так, кожны з вас гэтак кажэ, але чаму ніводзін з імі ня жэніцца?



## Яна ня згодзіцца,

— Што ты думаеш аб агульным разаружэньню?

— Я думаю, што мая жонка на гэта ня згодзіцца.



## Выкрут.

— Мой дарагі, пазыч мне 5 рублёў,

— З ахвотай даў-бы, але не маю пры сабе,

— А дома?

— Дзякую, ўсе здаровы! I... бывайце здаровы!



## Жыдоускіе зоологі.

*Іцка:* Шмойлэ! Ты відзел такую трубу, што калі заплуе, то ваду ліе?
*Шмуль:* Не!
*Іцка:* А ведаеш, што гэта?
*Шмуль:* Не.
*Іцка:* То ты агой, бо гэто слонь!
*Шмуль:* Іцке! А ты відел такі джуб, што да яго прырос птах?
*Іцка:* Не.
*Шмуль:* То ты дурэнь! Гэто з веціа чапля.



## Розум.

— Скажы мне Мойшэ, дзе сядзіць розум?
— Ны, ён саўсім не сядзіць.
— Ны, а дзе-ж ён?
— Ен сабе ходзіць за інтэрэсамі, бо каб ён сядзеў, то ня быў-бы розум.



## З гістарычных апаведаньнёў.

Было гэта на другі дзень пасьля таго, як Рымляне пабралі Сабінак. Бедные мужы пазбаўленные жонак і дачок, ламалі рукі і голасна нарэкалі, а найбольш нарэкаў і плакаў адзін з іх; ён качаўся па зямлі і вырываў сабе валасы жменямі.

Адзін с прыяцелёў хацеў яго пацешыць і кажэ:

— Супакойся дружэ! Прыглядзься і ты пабачыш, што мы усе не маем сваіх жон і дачок.

— Так, так!—атказывае бедны муж.— Добра тебе пацешаць мяне. Але падумай сабе, што мне трапілося. Мая жонка схавалася і яе Рымляне не знайшлі саўсім.



## З размоу тутэйшых „полякуф“.

— Яне, а кеды вы бэндзеце млуціць свое жыто і вовес?
— Жыто мы бэндземі млуціць по пшодку, а вовес по посьлядку.

* * *

— Дзень добры!
— Падам до нуг, як длуга!
— А што-ж вашы там парабяём?
— Пасадзілі капонсты чатэры грэнды, але як завял вятш на сьвенты Пятш, то ўшыстка капонста выкалэнтал.
— А, то чыста згуба!

* * *

— Дзе паненка ідзе?
— На дзяло! (на работу у двор).
— Цо паненка несе?
— Цап (цэп).
— А цо у ворэчку?
— Хляп (хлеб).
— А як паненка умее хораша гадаць!
— Бо служыла у двожэ тшы лента, пэсьвілам целента,—етчэ умем ляпш!







ЗДАРЭНЬНЕ У ТУНЭЛІ ПАД ВІЛЬНЯЙ.





## С пісьма да цешчы.

. . . У нас, у Вільні, дарагая мама, ездзіць сёлета колькі аўтомобілёў і блізка што дзень яны душаць людзей, каторые трапляюцца ім на сустрэч, або наўпоперэк. Цяпер вы, дарагая мамачка, прыежджайце крыху пагасьціць да нас. Ах, якбы мы былі рады... і т. д.



## Брэхня бывае:

Калі Ковалюк і К° кажуць, што мы „настоящіе бѣлоруссы“.

Калі „Kurjer Wileński“ ці „Gazeta Codzienna“ становяцца у абарону „люду“.

Калі „Сѣверо-Западная Жизнь“ рукой п. Солоневіча пішэ аб не падкупнасьці.

Калі віленскіе „палякі“ гаворацьаб „постэмпе“ і „толеранціі“.

Калі чорная сотня бароніць інородцоў і іноверцоў.

Калі віленскіе „постэмповцы“ кажуць, што яны нічога супольнаго не маюць з эндэкамі.

## Афорызмы.

Добры чэлавек карае—благі мсціцца.

Разумны не гаворыць аб сваім шчасьці — сільны, аб сваім нешчасьці.

Многа людзей маюць адзін толькі ідеал, каб ня мець ніякіх ідэалоў.

Дзеўчатам вер, як іх добра пазнаеш, дык вось ня вер ім ніколі.

Папраўдзі закаханы мужчына падобены да серчыка: запаліцца і страціць галаву.

Нізкіе людзі умеюць прыседаць дужа нізка, каб вышэй падскочыць.

Адвакаты-праціўнікі гэто бытцым дзьве палавінкі ножніц, I горэ таму, хто пападзецца між іх.

С. ПЛАЎНІК.

Віленская друкарня Гарбарская вул. д. 1.